© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024




# Ніва

 БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК 

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (731) ГОД XV БЕЛАСТОК 1 САКАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

● 10 лютага прэзідыум ГП зацвердзіў фінансавую справаздачу за 1969 год.

● Этнаграфічная камісія ГП 10-га лютага на сваім пасяджэнні найбольш прысвяціла часу справам этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы. Між іншым, вызначыліся спосабы далейшай зборкі экспанатаў да музея. Старшыня камісіі Уладзімір Гацута паінфармаваў аб наладжванні камісіяй супрацоўніцтва з некаторымі навуковымі ўстановамі.

● Выдавецкая камісія (11 лютага) абмяркоўвала выдавецкія справы БГКТ. Камісія апрацавала выдавецкі план ГП да 1974 года ўключна. Камісія выбрала сярод сваіх членаў намесніка старшыні (старшынёй камісіі з'яўляецца Георгі Валкавыцкі) у асобе — Івана Чыквіна і сакратара ў асобе Яніны Чэрнякевіч. Камісія запрапанавала трохасабовую рэдкалегію календара на 1971 год у складзе Георгі Валкавыцкі, Уладзімір Юзвюк і Янка Зенюк. (Рэдактарам календара з'яўляецца Сакрат Яновіч).

● 12-га лютага адбылося ў памяшканні ГП першае пасяджэнне прэзідыума беластоцкага павятовага праўлення аддзела пад старшынствам Віктара Кандрусіка. Прэзідыум абмеркаваў пастановы канферэнцыі, апрацаваў план працы аддзела і прэзідыума. У гэтых планах найбольшы націск кладзецца на разбудову БГКТ, святкаванне 100-ай гадавіны У. І. Леніна і на супрацоўніцтва з ЗМВ.

● 13-га лютага ў Дуброве адбылася нарада павятовага актыву БГКТ з удзелам сакратара прапаганды КП ПАРП Аляксея Валошына, сакратара ГП Янкі Зенюка і кіраўніка культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Уладзіміра Паўлоўскага. На нарадзе абмяркоўваліся справы, звязаныя са скліканнем павятовай канферэнцыі БГКТ. Было пастаноўлена правесці сходы ў вёсках і выбраць дэлегатаў на канферэнцыю з пасобных гурткоў. Кожнаму актывісту прыдзелены канкрэтныя заданні.

● Нядаўна арганізаваны хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад кіраўніцтвам Марысі Мароз рыхтуецца да першага публічнага выступлення, якое адбудзецца ў сувязі са святам жанчын.



Фота Цаф — Сянько

**Снег з ветрам калючым шныраюць.**
**А я ледзь чутна прашу:**
**«Трава,**
**прыляці з выраю,**
**прысядзь на лугі, на шашу.**
**Прыляці і прысядзь за вёскай**
**пад алешын зрудзелых сям'ю,**
**сакавітым лісцяным голасам**
**песню мне прашумі сваю;**
**Ўспамінаючы позірк далёкі**
**тых вачэй, не жыць без якіх,**
**буду я ўзлятаць пад аблокі**
**на зялёных крылах тваіх...»**

**Алесь Наўроцкі**

## ЧАМУ ГАЙНАЎШЧЫНА АПОШНЯЯ?




Каб слушна і аб'ектыўна ацаніць стан сельскай гаспадаркі ў Гайнаўскім павеце, неабходна было б дакладна і падрабязна, пункт за пунктам прасачыць усе галіны гэтай гаспадаркі. Няма магчымасці змясціць усё гэта ў рамках аднаго кароткага артыкула. Таму я вымушаны абмежавацца толькі да некаторых агульных заўваг, ды гэтыя заўвагі будуць адлюстроўваць маю ўласную, суб'ектыўную апінію, а не погляды ўстановы, працаўніком якой я з'яўляюся.

### НАТУРАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ

Структура зямельных угоддзяў у Гайнаўскім павеце не горшая ад сярэдняга стану ва ўсім ваяводстве. І ворнай зямлі, і сенажацяў, і пасбішчаў не менш там, як у іншых паветах. І па якасці глебы Гайнаўшчына не так ужо адстае ад суседніх раёнаў. Толькі адна цераспалосіца ў нейкай ступені абмяжоўвае магчымасці гаспадароў Гайнаўшчыны. Сапраўды, тут яе найбольш. Не можна аднак усёй віны за дрэнныя вынікі ў сельскагаспадарчай прадукцыі звальваць на цераспалосіцу.

Гайнаўскі павет мае багатыя традыцыі супольнай, грамадскай дзейнасці. Дзіўна, што сельскагаспадарчыя спецыялісты і дзеячы не змаглі выкарыстаць гэтай грамадскай актыўнасці, каб наладзіць нейкія супольныя мерапрыемствы ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасці ва ўмовах цераспалосіцы. Можна ж супольна дагаварвацца дзе што сеяць, якім зернем сеяць, колькі і якія прымяняць штучныя ўгнаенні. Вось менавіта...

### ...ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

У іх чарадзейскай сіле тайна і крыніца ўраджайнасці. Гайнаўскія сяляне ў мінулым годзе на 1 гектар зямельных угоддзяў прымянілі 47,3 кг хімічна чыстага рэчыва і гэты паказчык даваў ім апошняе месца ў ваяводстве.

Узнікае пытанне: чаму так дзеецца?

Часта сяляне наракаюць, што няма грошай на пакупку штучных угнаенняў. Гэта звычайная хлусня. То ж даход селяніна толькі і выключна залежыць ад высокай таварнасці яго гаспадаркі, ад гэтай прадукцыі, якую ён прызначае на продаж. Дакладныя падлікі паказваюць, **што кожны кілаграм хімічна чыстага рэчыва штучных угнаенняў дае гаспадару 21,40 злотых чыстага, паўтараю, чыстага прыбытку. Вось сялянская скарбніца, тут гаспадару шукаць трэба грошай.**

Здаецца, што сяляне ў Гайнаўскім павеце не ведаюць пра гэта, не было каму ім дакладна гэта растлумачыць, а аграномы не змаглі паказаць у практычнай дзейнасці, на вопытных дзялянках, як штучныя ўгнаенні павялічваюць грашовы прыбытак сялян.

Калі ўлічыць, што падатак, абавязковыя пастаўкі, страхоўка, складчыны на грамадскія фонды застаюцца нязменнымі, дык **кожная залатоўка дадатковага прыбытку павялічвае селяніну запасы грошай.** А крыніцай

Працяг на стар. 4

## ПРА СУЧАСНАГА ПУСТЭЛЬНІКА МІХАСЯ МІХАЛЯКА, ПРА ЯГОНУЮ СЛАВУ І ПАКУТЫ

Заалярмавалі мяне: у Беластоку на вуліцы такой-та, пад нумарам такім-та жыве адзінокі дзядзька, без сродкаў да жыцця, які адмаўляецца ад усялякай дапамогі звонку. Выслалі яму калісьці харчавую пасылку, а ён занёс яе на пошту ды адаслаў у В'етнам.

— Ёсць людзі, якія больш ад мяне патрабуюць, — тлумачыў грамадскаму апекуну. — Малыя дзеці паміраюць з голаду.

«Жыве жыццём пустэльніка» — сказалі мне аб ім.

Пайшоў я на ўказаную вуліцу пад указаны нумар. Хатка — не хатка, а уласна кажучы, нейкі будан, да якога ўлетку вядзе з вуліцы вузкая сцяжынка. Зімою сцяжынкі няма. Усё завалена снегам, і да хаткі пустэльніка прабірацца трэба праз гурбы снегу вышынёю ў рост чалавека. Да таго ўладанне пустэльніка адгароджана ад свету старой брамкай, якая калісьці мела завесы і зашчапкі, адкрывалася і закрывалася, а цяпер, скованая наглуха дротам і лёдам, для наведвальніка з'яўляецца сапраўднай праблемай. Наведвальнік мае да выбару: пераскочыць загарадзь або павваліць брамку. Выбіраю гэтае другое. Застаецца толькі перапаўзці праз снег, і вось знаходжуся ўжо перад дзвярыма гэтай хаткі.

Стукаю пальцам, потым двума пальцамі, потым кулаком. Нічога. У пустэльні мёртвая цішыня. Дзверы адчыніліся ў хаце на суседнім панадворку. Паявілася ў іх нейкая жанчына і пачала талкаваць:

— Пан пацягне за шнурок. Там павінен быць шнурок. Гэта ад званка. У яго зазвоніць званок, і ён пану адкрые.

Шнурка няма, але пад страхою знаходжу так, на якім калісьці, мабыць, вісеў шнурок. Турзаю некалькі разоў за гэты гак. У будынку нешта заварушылася. Адчыніліся дзверы. Паяўляецца ў іх салідная мужчынская постаць. Бледны твар, доўгая барада, на твары рысы інтэлігентнай набожнасці.

— Дзень добры.

— Дзень добры. Слухаю пана.

— Я з грамадскай апекі.

— А я да ніякай апекі не належу.

— Да апекі і не належаць. Пад апеку падпарадкаваны ўсе, хто патрабуе нейкай дапамогі.

— Я аніякай дапамогі не патрабую.

— Аднак мне хацелася б з вамі пагаварыць.

— Аб чым мы маем гаварыць?

— Ну, як вы жывеце, ці чаго не патрабуеце?

— Я ж вам напісаў у лісце: нічога

Працяг на стар. 4



Гайнаўка. «Міленіум». Фота Я. Цялушэцкі.

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ЗАЯВА ТАСС

ТАСС апублікавала заяву ў справе сітуацыі на Кіпры. У заяве гаворыцца, што факты сведчаць аб расшырэнні дзейнасці тэрарыстычнай арганізацыі «нацыянальны фронт» і іншых рэакцыйных сіл, якія звязаны з грэчаскім ваенным рэжымам і служаць агрэсіўнаму Паўночнаатлантычнаму блоку. Яны разгортваюць прапаганду «энозіса» (далучэнне Кіпра да Грэцыі), пад прыкрыццём якога разлічваюць стварыць спрыяльныя ўмовы для ператварэння вострава ў ваенны плацдарм НАТО, ліквідацыі незалежнасці рэспублікі.

Паводле шматлікіх паведамленняў кіпрскага і заходняга друку, на Кіпры ствараюцца нелегальныя склады зброі і боепрыпасаў, больш частыя сталі тэрарыстычныя акты супраць палітычных і грамадскіх дзеячаў краіны, якія выступаюць за яе незалежнасць, і напады на прадстаўнікоў улад, узмацняецца кампанія запалохвання насельніцтва. Гэта актывізацыя антыдзяржаўнай дзейнасці з'яўляецца састаўной часткай супольнага плана «вырашэння» пытання аб Кіпры ваенным шляхам. Значэнне Кіпра ў планах НАТО асабліва ўзрастае ў сувязі з дзейнасцю Паўночнаатлантычнага блоку, якая ўмацоўваецца ў раёне Міжземнамор'я і Блізкага Усходу.

— ТАСС упаўнаважаны заявіць, — гаворыцца ў заяве, — што ў Савецкім Саюзе ўважліва сочаць за цяперашнім развіццём падзей на Кіпры і вакол Кіпра. Савецкі Саюз рашуча выступае ў падтрымку незалежнасці, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласці Рэспублікі Кіпр, за ліквідацыю замежных ваенных баз на Кіпры, за мірнае вырашэнне кіпрскага пытання.

### ВАЖНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Пасланні А. Касыгіна кіраўнікам трох заходніх дзяржаў у святле злачынстваў Ізраіля ў Абу-Заабале становяцца яшчэ больш важнымі і актуальнымі. Злачынны акт ізраільскай авіяцыі на металургічны завод у Егіпце павінен быў паслужыць дэманстрацыяй сілы і паказаць, што чатырохбаковыя кансультацыі паміж СССР, ЗША, Англіяй і Францыяй па пытаннях мірнага ўрэгулявання канфлікту з'яўляюцца дарэмнымі.

Аднак на гэты варварскі паступак Ізраіля з усіх краін пасыпаліся асуджэнні. Пасланні А. Касыгіна сведчаць аб тым, што Савецкі Саюз поўны рашучасці садзейнічаць зрыву імперыялістычных авантур на Блізкім Усходзе, якія расшыраюць і паглыбляюць канфлікт.

### ДЭФІЦЫТ

Згодна з данымі міністэрства гандлю ЗША, уцечка фінансаў з ЗША ў 1969 годзе склала амаль 7 мільярдаў долараў. Гэта сведчыць аб рэзкім пагаршэнні фінансавага становішча краіны ў параўнанні з папярэднім 1968 годам, калі плацежны баланс быў зведзен з актыўным сальда ў 168 мільёнаў долараў.

(ак)



## БССР

### СХОД

Рэспубліканскі сход прадстаўнікоў абласных саветаў калгасаў адбыўся ў Мінску, у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

У парадку дня сходу: аб задачах калгасаў Беларусі па выкананню рашэнняў Трэцяга Усесаюзнага з'езда калгаснікаў; выбары Рэспубліканскага савета калгасаў.

Сельская гаспадарка Беларусі змагаецца за тое, каб ў бягучым годзе дабіцца ўраджайнасці палёў па 19—20 цэнтнераў збожжа з гектара, давесці ўраджайнасць бульбы да 140—150 цэнтнераў з гектара і цукровых буракоў да 240—250 цэнтнераў. Многія калгасы вельмі значна перавысілі гэтыя сярэднія паказчыкі ўжо ў мінулым годзе.

Задачай нумар адзін сельскай гаспадаркі Беларусі з'яўляецца зараз вапнаванне кіслых глеб.

Надалей адным з галоўных клопатаў павінна быць далейшае развіццё жывёлагадоўлі — вядучай галіны ў беларускай сельскай гаспадарцы. На яе долю прыпадае 74 працэнты ўсёй таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі.

З прамовай на сходзе выступіў сакратар ЦК Кампартыі Беларусі У. Міцкевіч.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

Пытанню выкарыстання і аховы водных рэсурсаў Беларусі была прысвечана рэспубліканская навукова-тэхнічная канферэнцыя, якая адбылася ў Мінску. Звыш 300 прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, навукова-даследчых, навучальных, праектных і вытворчых арганізацый, мясцовых партыйных і савецкіх органаў удзельнічала ў абмеркаванні гэтай актуальнай праблемы. У рабоце канферэнцыі прынялі таксама ўдзел спецыялісты з Расіі, Украіны, Малдавіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

У Беларусі за апошнія гады распрацавана генеральная схема комплекснага выкарыстання і аховы водных рэсурсаў, а таксама схема асушэння і загаспадаравання зямель Палескай нізіны.

### ШКЛОЎСКАГА

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі адобрыў сацыялістычныя абавязацельствы работнікаў сельскай гаспадаркі Шклоўскага раёна і абавязаў абласныя камітэты, раённыя камітэты і пярвічныя партыйныя арганізацыі па прыкладу гэтага раёна разгарнуць масавае сацыялістычнае спаборніцтва на ўсіх участках сельскагаспадарчай вытворчасці за дасягненне высокіх паказчыкаў у 1970 годзе дзеля дастойнага адзначэння стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

### ПЛЕНУМ

У Мінску адбыўся пленум абласнога аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

На Міншчыне створана 865 пярвічных арганізацый таварыства, якія налічваюць звыш 64 тысяч членаў, і 613 калектыўных членаў.

### ПЕРШЫ

Першы беларускі гістарычны фільм «Я, Францішак Скарына» ўжо зроблены. У Мінску адбыўся сеанс гэтага фільма, які выклікаў вялікае зацікаўленне.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### АКТУАЛЬНЫЯ ЗАДАННІ

20.II. адбылася пленарная сесія Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа. Прынялі ў ёй удзел прадстаўнікі найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад з Уладзіславам Гамулкам на чале. З прамовай на тэму: «Актуальныя заданні Фронту адзінства народа» выступіў старшыня Рады Дзяржавы, старшыня Агульнапольскага камітэта ФАН — Мар'ян Спыхальскі.

Падкрэсліў ён вялікія дасягненні нашай краіны за перыяд народнай улады, заўважаючы адначасова, што ў апошні перыяд выявіліся недахопы ў галіне эфектыўнасці гаспадаравання. Таму гаспадарчыя праблемы, праблемы поўнага выкарыстання прадукцыйных магчымасцей павінны знайсціся ў цэнтры ўвагі грамадства і стаць цэнтральнай праблемай для Фронту адзінства народа, для ўсяго яго актыву. Істотай праграмы інтэнсіфікацыі прадукцыі з'яўляецца імкненне, каб кожная залатоўка прадукцыйнай маёмасці прыносіла максімальны эфект у постаці чыстай прадукцыі, гэта значыць, нацыянальнага даходу. А справы гэтыя цікавяць усіх жыхароў краіны, з'яўляюцца справай усіх нас. Ад пастаўы мільёнаў жыхароў краіны, ад іх удзелу залежаць будзе паспяховасць гэтага вялікага мерапрыемства.

У сувязі з новымі заданнямі старшыня Рады Дзяржавы ўказаў на неабходнасць умацоўвання маральна-палітычнага адзінства нашага народа на грунце сацыялізма і імкнення да далейшага сацыялістычнага развіцця нашай краіны. Вялікае значэнне ў нашай працы над маральна-палітычным адзінствам народа будуць мець святкаванні сотай гадавіны з дня нараджэння Уладзіміра Леніна. Галоўным аднак акцэнтам нашай працы ў сувязі з Ленінскім годам не могуць і не павінны быць урачыстасці і акадэміі. Трэба патрактаваць гэтую гадавіну глыбей, звязаць яе са справамі нашай штодзённасці. Асноўнай праблемай у нас з'яўляецца праблема прадуктыўнасці працы, інтэнсіфікацыя і паляпшэнне эфектыўнасці нашай гаспадаркі. Не можа быць больш удзячнага і поўнага спосабу адзначэння ленінскай гадавіны, як арганізаванне нашых намаганняў у напрамку павышэння прадуктыўнасці працы. У сувязі з тым асабліва важнага значэння набірае заклік рабочых калектываў медзянай прамысловасці да рабочага класа ўсяе краіны, каб прымаць масавы ўдзел у працах грамадскім чынам.

У далейшай частцы свайго выступлення тав. Мар'ян Спыхальскі затрымаўся над некаторымі праблемамі нашай замежнай палітыкі (а асабліва нашых суадносін з Федэратыўнай Рэспублікай Германіі). Падкрэсліў ён яшчэ раз, што прадметам нашых перагавораў з ФРГ не можа быць і ніколі не будзе праблема нашай заходняй мяжы, так як мяжа гэтая астаткова ўстаноўлена згодна з пачдамскімі рашэннямі. Тэмай размоў можа быць і ёсць у сапраўднасці справа прызнання гэтай мяжы Федэратыўнай Рэспублікай Германіі.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

У адказ на заклік дольнашлёнскіх шахцёраў з Любіна, каб прадукцыйным чынам адзначыць сотую гадавіну з дня нараджэння Леніна, 25-ую гадавіну перамогі над фашысцкай Германіяй і 25-тую гадавіну ўз'яднання з Айчынай заходніх і паўночных зямель Польшчы, рабочыя фастаўскага тэкстыльнага камбіната прынялі на сябе каштоўныя абавязацельствы. Адначасова фастаўскі калектыў выступіў з падобным заклікам да ўсіх рабочых і сялян на Беласточчыне.

Пра тое мы ўжо пісалі. Сёння можам адзначыць, што фастаўскі заклік трапіў на добрую глебу. З усіх куткоў Беласточчыны шчодра пасыпаліся каштоўныя абавязацельствы.

Рабочыя, якія працуюць на чыгуначных і шасейных дарогах, абавязаліся павысіць прадуктыўнасць сваёй працы, каб гэтым чынам як мага хутчэй навесці парадак на чыгунцы і на дарогах, каб паменшыць затраты, выкліканыя суровай зімой. 7 рабочых брыгад прыступіла да спаборніцтва за званне «Брыгады сацыялістычнай працы». Чыгуначнікі і дарожныя працаўнікі шмат свайго часу рашылі адвесці на працу грамадскім чынам. Іх абавязацельствы ацэньваюць на 1 мільён злотых.

Працаўнікі дзяржаўнай станцыі гадоўлі пародзістай жывёлы ў Элку абавязаліся павысіць удой малака ад 1 каровы да 4780 кг у год, ураджай збожжа да 24 цэнтнераў з гектара і бульбы да 198 цэнтнераў. Разам з іншымі абавязацельствамі прадукцыйны чын гэтага прадпрыемства складзе 1 мільён 600 тысяч злотых.

Калектыў яечна-птушачнага прадпрыемства ў Беластоку абавязаўся выпусціць звыш плана 300 тон птушачнага мяса і 2500 гадзін часу працаваць грамадскім чынам.

Рабочыя чыгуначнага прадпрыемства стальных канструкцый у Старасельцах, прадпрыемства, якое носіць імя Рэвалюцыі 1905 года, абавязаліся датэрмінова выканаць шмат важных стальных элементаў для пабудовы мастоў. Грамадскім чынам адснежаць яны чыгуначныя і даездныя дарогі да свайго прадпрыемства.

Вучні механічнага тэхнікума ў Беластоку абавязаліся грамадскім чынам выканаць камплекты экспанатаў для нагляднага навучання фізікі.

Рабочыя будаўлянага прадпрыемства ў Элку абавязаліся датэрмінова пабудаваць 11 прамысловых сельскагаспадарчых і жылых аб'ектаў. Такім чынам, сэканомяць яны звыш 5 мільёнаў злотых. Падобныя абавязацельствы прынялі на сябе калектыў беластоцкага прадпрыемства прамысловага будаўніцтва.

Заяўкі аб новых абавязацельствах паступаюць кожны дзень. Жыхары Беластоцкага ваяводства ахвярнай працай адзначаюць важныя для нашага народа гістарычныя гадавіны. Пра іншыя болей каштоўныя абавязацельствы пэінфармуем чытачам наступным разам.

(вр)




**Niedziela 1. III.**

8.05 Program dnia; 8.10 TV Kurs Rolniczy: „Użytkowanie rzeźne owiec"; 8.45 „Przypominamy, radzimy" 9.00 Dla młodych widzów: „Fort Olgierd" — film TVP („Czterej pancerni i pies") 11.00 „Piosenka dla Ciebie" — reklamowy koncert życzeń; 11.55 Dziennik; 12.10 „Bawcie się z nami"; 12.50 „W starym kinie" — „Dzieła Tołstoja na ekranie"; 13.50 „Przemiany"; 14.20 „Pociągiem przez świat" — film; 14.50 Dla dzieci: „Tam gdzie zimą jest lato" — film radz.; 15.20 „Spotkanie z pisarzem" — Stefan Otwinowski; 15.50 „Spotkanie z Beethovenem" — program muzyczny; 16.30 „Teatr Telewizji na świecie": „Pokusa" — program TV amerykańskiej; 17.25 „Klub Sześciu Kontynentów"; 18.05 „Spotkamy się o 18.20 czyli nasze hobby" („Dymek z papierosa"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Bożyszcze" — film fab. fran.; 21. 45 PKF; 21.55 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 2. III.**

14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.35 „Echo stadionu"; 17.50 „Bratysławskie koronacje" — film czechosł.; 18.10 „Spacerkiem po kinach"; 18.40 „Eureka" — sztafeta reporterów; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Drogi zwycięstwa"; 20.35 Teatr TV: P. Warren — „Sędzia Irvin"; 22.05 „Kino Filmów Animowanych"; 22.35 Dziennik.

**Wtorek 3. III.**

9.00 Dla szkół: (kl. II. lic.) Język polski — St. Wyspiański „Noc listopadowa"; 9.35 Przerwa; 10.00 „Pierwsza Bastylia" — film fab. radz.; 11.15 Przerwa 12.00 „Wybieramy zawód"; 12.30 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wiosenne prace na łąkach i pastwiskach"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.10 Politechnika TV I roku. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 „Bodźce" — program publ.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Pierwsza Bastylia" — film fab. radz.; 21.20 „Gorzki smak wody" — rep. film.; 21.50 Dziennik.

**Środa 4. III.**

10.00 „Zakład o śmierć" — film TVP („Czterej pancerni i pies"); 11.00 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciśnienie atmosferyczne"; 12.25 Przerwa; 14.30 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej LEWSKI (Sofia) — GÓRNIK (Zabrze). w przerwie PKF; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 17. 20 TV Kurier Warszawski; 17.35 „Reklama w piosence"; 17.50 Magazyn Medyczny; 18.20 „Wyprawy" film; 18.45 „Leninowskie normy życia społecznego"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Zakład o śmierć" — film TVP („Czterej pancerni i pies"); 21.05 „Światowid"; 21.35 Studio Współczesne: „Remont — filozofom wstęp wzbroniony"; 22.35 Dziennik.

**Czwartek 5. III.**

8.15 Matematyka w szkole: „Metody numeryczne i graficzne"; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Poezja polskiego Oświecenia"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — B. Prus „Pałac i rudera"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — „Przyboś, Gałczyński, Różewicz"; 12.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja zadawania pasz i usuwania obornika w oborach"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.45 Politechnika TV I roku. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.50 „100 dni w doku" 18.20 „Krytyka zmienną jest"; 18.50 „Byłem w Anya-Nya" film dok. TV („Sudan" cz. II); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Kim jesteście Wenkow" — film fab. bułg. cz. I.; 21.45 „Lektury współczesne"; 21.55 Refleksje"; 22.25 Dziennik.

**Piątek 6. III.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Silniki odrzutowe"; 10.30 „Kim jesteście Wenkow" — film fab. bułg. cz. I.; 12.10 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. II i III lic.) Przysposobienie obronne — „Środki i sposoby zabezpieczenia żywności, wody i paszy przed skażeniami"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 22.30 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów „Aula" — sesja XII; „Zrób to sam"; 17.45 TV Kurier Mazowiecki; 18.00 „Nie tylko dla pań"; 18.25 Wszechnica TV: „Indie" cz. I („Telewizyjny Atlas Świata"); 18.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Gra zespół Jerzego Miliana; 20.25 „Kim jesteście Wenkow" — film fab. bułg. cz. II.; 22.10 Dziennik.

**Sobota 7. III.**

10.00 „Kim jesteście Wenkow" — film fab. bułg. cz. II.; 11.45 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Gady"; 12.25 Przerwa; 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Wykorzystanie projektów typowych w budownictwie inwentarskim"; 15.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 15.10 Program tygodnia; 16.25 „Oferty" — reklama; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Zyski i straty" — XIV turniej szkół zawodowych (Poznań i Warszawa); 17.50 „Spotkania z przyrodą"; 18.15 „Historia zaczęła się w Turynie" — rep. z podróży do Włoch (cz. I); 18.45 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 Cyrkowy wóz"; 21.20 Dziennik; 21.40 „Rękopis znaleziony w Saragossie" — film fab. pol.




**Piątek, 27 lutego.**

8,05 Nowiny; 8.15 Dla przedszkolaków; 8.45 Ludowy artysta RSFRR U. Kandałaki; 9.45 Dla uczniów; 10.15 Nowiny; 15.00 Program dnia; 15.05 Nowiny; 15.15 Dla uczniów; 15.45 „Panorama nowin"; 16.05 „Mówią delegaci XXIV Zjazdu Komsomołu Białorusi"; 16.30 „W. Lenin. Kronika życia i działalności"; 17.00 „Sztafeta nowin"; 17.45 P. Czajkowski. „Jezioro łabędzie". Spektakl z Leningradu"; 20.45 TV barwna; 21.45 Nowiny.

**Sobota, 28 lutego.**

8.05 Przegląd międzynarodowy; 8.20 „Szkatułka muzyczna"; 8.30 „Kontrolerzy"; 9.10 Koncert; 9.45 Przegląd tygodniowy; 10.25 Program muzyczny; 11.25 Nowiny; 11.30 TV barwna; 12.40 Uniwersytet TV; 13.15 Nowiny; 13.20 Uniwersytet TV; 14.00 „W blaskach sceny"; 14.40 Dla uczniów; 14.55 „Martwy sezon". Film fab.; 16.00 Nowiny; 16.05 „Kronika półwiecza. Rok 1925"; 17.00 „Świat socjalizmu"; 17.30 „Turniej dociekliwych"; 18.05 „Ziemia i ludzie"; 19.00 TV teatr miniatur; 19.35 „Włodarze bez masek"; 20.05 TV barwna; 21.00 „Sala tańców"; 22.00 Nowiny.

**Niedziela, 1 marca.**

8.10 Spektakl TV dla dzieci; 9.00 Filmy animowane dla dzieci; 9.30 „Rozmowa w rejkomie"; 10.00 Dla uczniów; 11.00 Spektakl z Leningradu; 13.00 „Godzina wiejska"; 14.00 Dla żołnierzy; 14.30 Program z Wilna; 15.15 TV barwna; 16.15 Nowiny; 16.25 Koncert z Wilna; 17.40 W eterze „Młodość"; 18.40 Nowiny; 18.45 „Siedem dni"; 19.30 Spektakl TV z Wilna; 21.00 Nowiny.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024




### «ЦЯЖАР ЗЯМЛІ»

Пазнаёміўшыся ў «Ніве» з артыкулам У. Паўлючука пад загалоўкам «Цяжар зямлі», мне, адказнаму працаўніку Беластоцкага аддзела сацыяльнага забеспячэння (папулярна званага ЗУС) неабходна крыху прадоўжыць яго думкі. Прычыны змены адносін сялян да зямлі, як нейкай збаўчай крыніцы ўтрымання сям'і ў мінулым, паказаны ў артыкуле даволі добра.

Перабудова эканомікі ў нашай краіне ў апошнім 25-годдзі стварыла неабмежаваныя магчымасці выхаду непатрэбных рук з перанаселеных вёсак у бліжэйшыя гарады, на прамысловыя прадпрыемствы цэнтральных ваяводстваў ПНР, на заходнія землі і г.д. Міграцыйнага ўбытку мы не змаглі аднак рэкампенсаваць дзякуючы пашырэнню механізацыі найбольш працахлонных сельскагаспадарчых працэсаў. Мясцовыя гаспадаркі надта дробныя, а сялянства доўгія гады прытрымлівалася старых спосабаў гаспадарання. Вынік такі, што старое пакаленне дажывае на гаспадарцы, але падняць яе на вышэйшы ўзровень ужо не можа. Хоча ведаць аднак, што чакае яго ў будучыні.

Новы ПГР, спулдзельня прадукцыйная — гэта магчымасць працы для маладых і здаровых. Для старых неабходнае сацыяльнае забеспячэнне. А яго наша дзяржава ўсім жыхарам загарантаваць не можа.

З думкай больш рацыянальнага выкарыстання зямлі ў будучыні і частковага сацыяльнага забеспячэння старасці ці інвалідства ўрад ПНР прыняў 24.I.1968 г. пастанову аб пенсіі для тых сялян, якія перададуць дзяржаве свае гаспадаркі.

У пастанове гэтай гаворыцца, што кожны селянін мае права перадаць дзяржаве сваю гаспадарку, калі яна мае паверхню не менш чым 5 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў і калі мясцовыя ўлады выкажуць згоду прыняць яе для лепшага загаспадаравання. Можна перадаць таксама ўсе гаспадарчыя пабудовы.

Аднак сялянам да 40 год жыцця за гэтыя гаспадаркі і маёмасць не прыслугоўвае ніякі эквівалент. Толькі пасля 40 год або атрымання інваліднасці I ці II групы незалежна ад узросту, прыслугоўвае ад 1/6 да 1/4 часткі пенсіі. Пры гэтым яна захоўваецца незалежна ад заробкаў у іншых дзяржаўных ці прыватных установах.

Якая ж гэта пенсія?

Гаспадары, якім споўнілася 65 год, атрымліваюць у месяц 800 зл. пенсіі за перададзеную гаспадарку ад 5 да 6 га сельгасугоддзяў, 900 зл. — ад 6 да 7 га, 1000 зл. — ад 7 — да 8 га, 1100 зл. — ад 8 да 10 га і 1200 зл. — вышэй 10 га.

Селянін можа перадаць дзяржаве свае пабудовы і сялібу, за што атрымлівае дадатковы эквівалент, устаноўлены мясцовымі ўладамі. Пабудовы можа таксама прадаць з тым аднак, што першынство іх набыцця мае дзяржава. Можа ён захаваць сялібу да 1 га паверхні, і, напрыклад, толькі дом, якім бясплатна карыстаецца да смерці. Нельга іх перадаваць у арэнду. Калі сяліба нядбайна загаспадаравана, улады могуць яе адабраць. Вышэй успамянутая пенсія паменшыцца, калі гаспадарка задоўжана ў адносінах да дзяржавы, на адпаведную суму даўгоў, змінусаваных да агульнай ашацаванай вартасці гаспадаркі, або на суму неабходных капіталаўкладанняў для аднаўлення ўраджайнасці занядбаных глеб.

Пасля смерці аднаго з супругаў другі атрымлівае 75% пенсіі.

Сяляне ў веку перадэмерытальным маюць права да нармальных пенсій за выслугу год працы, калі перапрацуюць у дзяржаўных, каапературных установах ці рамястве не менш 2 год.

Многазямельныя сяляне могуць перадаць дзяржаве частку сваёй гаспадаркі — не меншую аднак, чым 5 га сельгасугоддзяў. У замен за гэта будуць атрымліваць кожны месяц (да смерці) на конта ў Банку рольным 50% пенсіі, якую могуць выкарыстаць самі або іх патомства на інвестыцыі, або рэгуляванне дзяржаўных абавязкаў за астатнюю частку гаспадаркі.

* ✲ *

Справа перадачы дзяржаве гаспадаркі, на якой селянін працаваў усё жыццё, даволі балючая, а яе прыняццё для мясцовых улад — клапатлівае. Таму трэба перад прыняццём гэтага рашэння грунтоўна прааналізаваць усе свае магчымасці і вынікі такога кроку. Трэба пазнаёміцца з умовамі пастановы як асноўнага дакумента і з усімі дадатковымі загадамі Рады Міністраў, міністра сельскай гаспадаркі і іншымі.

**Ул. Юзвюк**

### БУДЫНАК ПРЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ВУЛІЦЫ

У нумары 46 «Нівы» пісалі мы аб шматгадовым балагане з адаптацыяй будынка пры Беластоцкай вуліцы ў Міхалове. У сувязі з гэтым аддзел камунальнай гаспадаркі павятовай рады ў Беластоку прыслаў выясненне, у якім піша, што:

...«адаптацыя будынка ў Міхалове пры вуліцы Беластоцкай для жыллёвых патрэб адбудзецца ў другім квартале гэтага года. Заканчэнне рамонту запланавана на першы квартал 1971 года».

Словам, лепей позна, чым ніколі!

(ся)

# ДРУГІ ВЕЧАР У БЕЛАРУСКІМ КЛУБЕ

Першы быў калісь, даўнавата. Першы не спадабаўся. Некаторыя нават гневаліся, што пакрытыкавала, а другія згаджаліся са мной. Атрымала ліст, але з незразумелымі подпісамі, які дапаўняў вобраз клуба. Адным словам, прыйшоў час, калі клуб даспеў да рэформ. Пачаліся яны і яшчэ прадаўжаюцца. Для беларускага клуба настаў цяпер перыяд пошукаў.

Гэткае ўражанне зрабіў на мне другі вечар. А быў гэта звычайны вечар звычайнага дня. Аўторак, здаецца. У клубе не прадбачылася ніякае ўрачыстае мерапрыемства. Не прыпадала ніякая гадавіна, не прыехаў ніякі беларускі паэт, ані рэвалюцыйны дзеяч. Ішла звычайная праца. У зале клуба чыста, свежа. Пры новых століках сядзелі маладыя людзі. Размова была даволі галосная, бо кожны стараўся пачуць адзін другога, а перашкаджаў гэтаму тэлевізар, на які ніхто з дзесяткаў двух прысутных не глядзеў.

Не заўважыла я, каб у беларускі клуб зайшоў і сеў старэйшы чалавек. У гэты другі вечар была гэтым найстарэйшым я, бо прыйшла службова.

Абсалютна пераважала моладзь. І то моладзь вельмі маладая, мо аж замаладая, як на вячэрнія клубныя візіты.

Дысцыпліна клуба і сама дысцыпліна прысутных лепшая, як калісь. Людзі пакідаюць паліто ў раздзявальні, модна і акуратна апранутыя, займаюць месцы пры століках. Без мітусні і спакойна. Менш вульгарызмаў у захаванні і мове. Хоць пачула адзін. Звярнула ўвагу, што так брыдка. Хлапец перапрасіў і тлумачыўся, што няхочучы выскачыла брыдкае слова.



У звычайны вечар маладыя ў клубе.

Ёсць кава ў клубе. Але кавы ў беларускім клубе п'юць мала. Ніводна асоба за дзве гадзіны маёй пабыўкі не купіла нават малой. П'юць лімонад і памідорны сок. Мне нават спадабаўся гэты звычай. І тут выкажу даўно ўжо выказваны мною дэвіз: у беларускім клубе трэба ўвесці «гарбату па-беларуску» (напрыклад, з ліповым цветам) — напітак смачны, здаровы і арыгінальны.

У раздзявальні клуба сваю нялёгкую пасаду трымае Нікадзім Панасік, пан, прыемны з выгляду, ветлівы і поўны раўнавагі. Ён першы прымае гэтых маладых, часта разбрыканых людзей. Яго станоўчая пастава дзейнічае супакойваюча.

Дагэтуль многія не маюць акрэсленага погляду, як называецца клуб на Варшаўскай 11. Афіцыяльна яго не хрысцілі. Мне было вельмі цікава, як моладзь, якая сюды найчасцей заходзіць, называе яго ў сваіх размовах. Спытала пару асоб: «наш клуб» — сказалі мне. А калі ў фабрыцы, ці ў горадзе гаворыце сябру, што пойдзеце ў клуб, які? «У беларускі клуб». А калі гаворыце па-польску, то як? «Таксама — do białoruskiego klubu».

Аб'яўляю тады афіцыйна, да ведама ўсіх падаю, што з волі народа клуб на Варшаўскай 11 завецца паўсюдна «беларускім клубам».

З перыяду пошукаў няхай увойдзе ў перыяд ініцыятыў, а потым у перыяд росквіту. І каб квітнеў тысячу год.

**Вера Леўчук**
**Фота Я. Цялушэцкі**



**Кавярка беларускага клуба — адна з сімпатычнейшых у Беластоку — Люба Блізнюк.**




**Увага, мастацкія гурткі!**

## ЗБОРНІК СЦЭНІЧНЫХ ТВОРАЎ

На днях у выдавецтве Галоўнага праўлення БГКТ выйшаў з друку **«Зборнік сцэнічных твораў».** Складальнікам і рэдактарам зборніка з'яўляецца Яніна Чэрнякевіч, журналіст «Нівы».

У зборніку п'есы вядомых беларускіх драматургаў у апрацоўцы для мастацкай самадзейнасці, п'есы для школьнай моладзі, а таксама п'есы беластоцкіх аўтараў, напісаныя спецыяльна для нашых вясковых аматарскіх гурткоў. Практычна, кожны мастацкі гурток — вялікі і малы — можа падабраць сабе з гэтага зборніка п'есу, адпаведную да яго магчымасцей.

Кіраўнікі гурткоў мастацкай самадзейнасці павінны звярнуцца па «Зборнік» у бліжэйшы аддзел БГКТ або ў Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

«Зборнік» бясплатны. (ся)

### СТРУКТУРА ПАСЕВАЎ

Ваяводскія ўлады прадбачваюць, што сяляне ў Беластоцкім ваяводстве найбольш поля прызначаць пад жыта, пшаніцу, авёс і ячмень. Гэтыя сельскагаспадарчыя культуры займаюць у агульнай структуры пасеваў амаль 60 працэнтаў. Пад бульбу адводзіцца каля 19 працэнтаў поля, а прамысловыя культуры займаюць толькі 4,3 працэнта.

Такое размеркаванне структуры пасеваў абумоўленае тым, што надалей нашае ваяводства адчувае недахоп збожжа.

**З метадычнай паліцы настаўніка**

## ТВОРЧАСЦЬ М. БАГДАНОВІЧА

Творчасць Максіма Багдановіча займае пачэснае месца побач з Я. Купалам і Я. Коласам, Э. Цёткай, Ц. Гартным. Зм. Бядуляй.

Разам з Купалам і Коласам Багдановіч сцвярджаў шырокія магчымасці беларускай літаратурнай мовы, скарбы якой так трапна выкарыстаў і ў сваіх арыгінальных вершах і ў перакладах, дзе па-беларуску загучалі радкі Гарацыя, Верлена і Гайнэ, Шылера і Верхарна. Паэт з асаблівай увагай вывучаў суадносіны рускай і беларускай мовы, а каб зрабіць свае творы даступнымі рускаму чытачу, сам перакладаў іх на рускую мову. Аб творчасці Багдановіча можна яшчэ сказаць і тое, што яго паэзія ўвабрала ў сябе лепшыя здабыткі беларускага фальклору, і што яна сугучна тым ідэйна-творчым прынцыпам, якія фарміраваліся на ўсіх этапах развіцця беларускай літаратуры.

Будзе вельмі дарэчы, калі настаўнік у сваім падагульняючым слове аб творчасці М. Багдановіча прывядзе яго словы з артыкула «Глыбы і слаі», дзе ён гаворыць пра беларускую літаратуру: «...Вялікім пачуццём напоўнена ўсё яе цела, не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу!..»

Нашыя падручнікі беларускай мовы прысвячаюць шмат месца творчасці таленавітага паэта. У падручніках ад 5-га па 8 клас змешчана дзевяць твораў М. Багдановіча. Зразумела, найбольшая колькасць твораў паэта прыпадае на 8 клас. Прыступаючы да аналізу твораў Багдановіча, настаўнік павінен памятаць, што яго лірыка вельмі надаецца для мастацкага чытання, і таму трэба запрапанаваць вучням прачытаць вершы перад аналізам.

Такім чынам, вучні лягчэй зразумеюць, што Багдановіч бачыць несправядлівасць жыцця і з горкай усмешкай гаворыць аб тым, «што не на трох кітах трымаецца зямля», яна стаіць на мужыцкай спіне. Праз многія творы паэта праходзіць глыбокая павага да тых, у каго чорныя рукі і моцныя спіны. Адным з такіх твораў з'яўляецца верш **«Краю мой родны! Як выкляты богам».** Настаўнік можа запрапанаваць вучням даць адказы на наступныя пытанні:

1. З якімі пачуццямі адносіцца паэт да роднага краю?
2. У якіх радках падкрэсліваецца прыгнечанасць народа?
3. Што гаворыць паэт у гэтым вершы аб казках і песнях беларусаў?
4. Сэнс пытання, якім завяршаецца твор.

У гэтым вершы Багдановіч выкарыстоўвае цэлы шэраг мастацкіх сродкаў, якія робяць паэтычны вобраз канкрэтным, мэтанакіраваным. Эпітэты дапамагаюць паэту данесці сваю думку ў самай лірычнай форме: «збожжа ўбогае», «бедныя хаткі», «панурыя людзі» — адразу ствараецца фон жыцця народа. Метафары ўзмацняюць уражанне, якое робіць твор. І, нарэшце, пасля традыцыйных фальклорных сродкаў — канкрэтны зварот да народа. Усе пералічаныя прыёмы падпарадкаваны адзінай мэце: паказаць, што ў народа ёсць здольнасць знішчыць «грамадскае гора», якое паэт бачыць у сацыяльнай няроўнасці. Добра было б, каб настаўнік напомніў радкі верша **«Кінь вечны плач свой аб старонцы»)** (якога, на жаль, няма ў падручніках), у ім даецца нібы адказ на пытанні папярэдняга твора: «Не згасла сонца! Сонца гляне, усіх падыме ада сна! Ён, гэты дзень, яшчэ настане, — і ачуняе старана».

Можна напомніць вучням, што гэты аптымізм — традыцыйны ў беларускай паэзіі. Напрыклад, у Коласа: «Я маўчу, маўчу, трываю, але скора загукаю: стрэльбы, хлопчыкі, бяры». Творчы пафас Багдановіча накіраваны таксама на тое, каб растлумачыць працоўным, што яны валодаюць такой сілай, якая забяспечыць перамогу.

Пры абмеркаванні творчасці Багдановіча, асабліва ў 8 класе, настаўніку дарэчы было б карыстацца і іншымі творамі Багдановіча, паколькі падборка іх у нашых падручніках не найлепшая. Творы Багдановіча ў асноўным кароткія, і таму можна іх прачытаць на ўроку з аднаго зборніка і зрабіць з вучнямі адпаведныя вывады.

А. К.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПЕЧАНЫЯ ЯБЛЫКІ

На двары яшчэ стаіць зіма, але падрыхтаваныя кампоты ў слоіках даўно ўжо з'едзены, і не адна гаспадыня мае клопаты з падрыхтоўкай дэсертаў (3-га блюда). Журавіны на кісель дарагія, кампоты з сушаных яблыкаў, ігруш і сліў прыеліся, ну, а будыні ці кісялі ў парашку, вядома, вялікай вартасці не маюць.

Таму прапаную на дэсерт печаныя яблыкі — блюда недарагое і смачнае.

У асноўным да пячэння бяруць антонаўкі (кіслыя яблыкі) — памытыя і выцертыя насуха яблыкі кладуць на пасмараванай тлушчам бляшцы і ставяць у не надта гарачую духоўку. Калі яблыкі стануць зусім мяккія, вымаюць іх і падаюць, пасыпаўшы цукрам.

Паколькі сезон на антонаўкі скончыўся, прапаную ўзяць шэрыя ранеты — фаршыраваныя яны яшчэ смачнейшыя, ды і не развальваюцца.

Фаршыруючы яблыкі, трэба з іх перш за ўсё асцярожна выразаць сярэдзіну (каб не прарэзаць яблыка наскрозь), выразаць трэба зверху так, каб знізу дзіркі не было. Пасля гэтага накладаць у яблыкі фарш і класці іх на бляшку, пасмараваную тлушчам.

**Яблыкі з канфітурамі (варэннем).** Напоўніць выразаныя дзіркі (невялікія) ў яблыках канфітурамі (найлепш малінавымі ці вішнёвымі без костачак). З цукру зварыць густы сіроп (каб цягнуўся нітачкай), заправіць сіроп лімоннай кіслатой. Убіць пену з 1—2 бялкоў (у залежнасці ад колькасці ўзятых яблыкаў; на 5 яблыкаў — 1 бялок, 100 г. цукру) і запарыць яе гарачым сіропам. Паліць яблыкі пенай і запячы.

Вельмі смачныя **яблыкі, фаршыраваныя тварагом з разынкамі.** Тварог або свежы сыр прапусціць праз машынку, размяшаць з цукрам, сырымі жаўткамі, маннай крупой, разынкамі і растопленым маслам. Падаючы да стала, можна паліць яблыкі смятанай і пасыпаць цукрам — пудрай. На 1 кг яблыкаў трэба ўзяць 300 г тварагу, 5 жаўткоў, сталовую лыжку масла, 100 г разынак, сталовую лыжку маннай крупы. Варта зрабіць у яблыках, якія збіраемся фаршыраваць тварагом з разынкамі, большыя адтуліны! Напэўна, гэты фарш даражэйшы ад яблыкаў, але раю спрабаваць.

Яблыкі можна фаршыраваць **рысавай кашай.** Рыс зварыць на малацэ, дадаць цукру. У атрыманую кашу палажыць разынкі, крыху арэхаў, масла, сырыя яечкі і ўсё гэта добра размяшаць. Запечаныя з рысам яблыкі можна паліць рэдкімі канфітурамі. На 10 яблыкаў — паўшклянкі рысу, шклянку малака, 1 яйцо, 2 сталовыя лыжкі масла, 30 грам разынак і столькі ж арэхаў.

Можна запячы **яблыкі, фаршыраваныя мёдам.** Мёд трэба вымешаць з арэхамі і пакрышанымі гарбатнікамі (пячэннем). На вярху напоўненых мёдам яблыкаў трэба палажыць крыху масла, накалоць у некалькіх месцах скурку і, паставіўшы яблыкі ў духоўку, сачыць каб яны не разваліліся. На 1 кг яблыкаў — 4 сталовыя лыжкі мёду, 4 лыжкі арэхаў, 4 гарбатнікі, чайная лыжачка масла.

**Вага і жыццё чалавека**

## ПРЫРОДА ЛЮБІЦЬ ПРАПОРЦЫІ

Ці можна загадзя прадказаць з'яўленне розных захворванняў у арганізме чалавека? Часцей за ўсё не. Можна выявіць хваробу на ранняй стадыі, калі рэгулярна праводзіць прафілактычныя агляды. Па залішняй вазе або рэзкаму яе падзенню, зацямненню ў лёгкіх і іншых прыкметах урачы адбіраюць «падазроных» пацыентаў і накіроўваюць на спецыяльныя даследванні. Адзін з самых надзейных вартавых нашага здароўя — адносная вага чалавека.

Ледзь чалавек нарадзіўся, яго кладуць на вагі, мераюць даўжыню цела. Вага, рост і шырыня таза чалавека — тры характарыстыкі адноснай вагі. Расце чалавек расце яго вага — значыць, усё ў парадку. Расце вага, але не расце чалавек — сігнал бедства: у арганізме адбываюцца змены.

Асабліва вялікая ўвага ўдзяляецца змяненню адноснай вагі ў першыя месяцы пасля нараджэння дзіцяці, у раннім дзяцінстве і школьным узросце. У гэтыя перыяды біялагічнае фарміраванне арганізма вызначаецца не толькі спадчыннасцю, але і ўмовамі хатняга і грамадскага выхавання. Састаў і колькасць ежы, рэжым, аб'ём і размеркаванне па часу разумовай і фізічнай нагрузкі здольныя змяніць прыродны напрамак біялагічнага развіцця.

Звычайна лічаць, што нармальная вага роўная росту чалавека ў сантыметрах, мінус сто. Калі рост чалавека складзе 170 сантыметраў, то яго нармальная вага не павінна перавышаць 70 кілаграмаў. Аднак для асоб старэйшых за 30 гадоў дапускаецца павелічэнне вагі ў залежнасці ад канстытуцыі ад 2,5 да 6 кілаграмаў. Зыходзячы з гэтага, урачы правялі даследванні па выяўленню залежнасці працягласці жыцця ад вагі і атрымалі такія вынікі: смяротнасць сярод асоб з лішняй вагой 10 кілаграмаў на 20 працэнтаў вышэйшая, чым сярод тых, у каго вага ў норме. Пры лішніх 30—40 кілаграмах людзі паміраюць удвая часцей.




### ПРЫЕМНАЯ НЕЧАКАНАСЦЬ

Вось што было ў Англіі ў канцы XIX стагоддзя. На спартыўным свяце праходзілі веласіпедныя гонкі. Удзел прымалі мацнейшыя спартсмены, толькі некалькі чалавек выступала ўпершыню. Прагучаў сігнал суддзі, і гоншчыкі рушылі з месца. Праз некаторы час з-за павароткі з'явіўся толькі адзін спартсмен, які намнога апярэдзіў сваіх сапернікаў і першы закончыў дыстанцыю. Чаму адзін? Што здарылася з іншымі? Хто ён, не вядомы нікому малады чалавек, які стаў пераможцам? Суддзі вырашылі, што ён змахляваў і праехаў толькі палову дыстанцыі. Але ўдзельнікі спаборніцтва пацвердзілі, што ён праехаў усю дыстанцыю. Спартсмена акружыў натоўп балельшчыкаў, якія хацелі даведацца, як гэта ён змог развіць такую вялікую хуткасць.

Выявілася, што на колах яго веласіпеда былі не простыя, а пнеўматычныя шыны, пра якія тады яшчэ ніхто ў свеце не ведаў. А вынаходцам іх зусім выпадкова стаў ветэрынарны ўрач Дэнлоп. Аднойчы сын паскардзіўся яму, што колы веласіпеда вельмі моцна прыціскаюцца да зямлі і выклікаюць непрыемнае адчуванне і нават боль. Дэнлоп узяў гумавы шланг, якім паліваў кветнік, і зрабіў з яго колцы. Надзеў іх на колы, а ўнутр напампаваў паветра. Так і з'явілася першая пнеўматычная шына. А крыху пазней такія ж пнеўматычныя шыны надзелі на колы аўтамабіляў, і гэта адразу павялічыла іх хуткасць.

### АТАМНЫ ГАДЗІННІК «ЭКСПО-70»

Токіо. На тэрыторыі Сусветнай выстаўкі «ЭКСПО-70», якая адкрываецца 15 сакавіка ў Асака (Японія), завершана будаўніцтва сістэмы адлічвання дакладнага часу. Цэнтрам сістэмы з'яўляецца ўстаноўлены на вежы вышынёй 19 метраў атамны гадзіннік. Гадзіннік вызначаецца высокай дакладнасцю: памылка ў адлічванні часу, паводле слоў спецыялістаў, складзе адну секунду ў тысячу гадоў. «ЭКСПО-70» будзе адкрыта да 13 верасня.

У сістэму адлічвання часу ўваходзяць таксама размешчаныя ў 50 месцах на выстаўцы 110 спецыяльных гадзіннікаў, стрэлкі якіх пераводзяцца з дапамогай паступаючых ад атамнага гадзінніка ультракароткахвалевых сігналаў. На светавых табло розных колераў паказваюцца не толькі гадзіны, мінуты, секунды, але і дзень тыдня і месяц года.

**Так выглядае «Экспо-70». У цэнтры ўзвышаецца павільён СССР.**



### БЕЛАРУСКАЯ МОДА



**Камплект для дзяцей старшага школьнага ўзросту: куртка чырвонага колеру з нятканай тканіны, нагавіцы шарсцяныя сіняга колеру.**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...вялізныя лісці маюць бразільскія пальмы — пальмавыя чаранкі дасягаюць 4,5 метраў даўжыні, а сам ліст удоўжкі 22 і ўшыркі 12 метраў. Аднаго такога ліста дастаткова, каб пад ім схаваліся ад дажджу дзесяць чалавек.

...д'ябальскае дрэва расце ў Паўночнай Афрыцы. Яго кара мае шмат фосфару. Дрэва выпраменьвае інтэнсіўнае святло. Уночы пры ім можна нават чытаць.

...у Аравіі расце кустарнік, які мясцовыя жыхары называюць раслінамі смеху. Калі чалавек з'есць плод з гэтага кустарніка, чорныя зярняткі велічынёй з гарошыну, — у яго пачынаецца прыступ смеху, які доўжыцца 20—30 хвілін.

## Чвэрць стагоддзя назад




### «ОРТСБАЎЭРФЮРАР»

Яшчэ не зусім сцямнела, калі мы падышлі да нейкага белага дома. Яго было відаць скрозь рэдкі, невысокі плот. Потым убачылі, што насцеж былі адчынены вароты. Нечаканасць... Бо прывыклі за час сваіх вандраванняў, што ў Прусіі з-за высокіх шчыльных платоў толькі чарапічныя чырвоныя дахі відаць. Дамы, як крэпасці. А тут зайшлі на двор не пачуўшы нават брэху сабакі. На сцяне вісела шыльда. Чорнымі гатычнымі літарамі было напісана толькі адно слова «Ортсбаўэрфюрар».

— Што гэта значыць? — шэптам спытаў Генка.

— Нешта накшталт старшыні сялянскай абшчыны, — спрабую разгадаць сэнс гэтага складанага з трох частак слова.

Праз адчыненыя аканіцы прабівалася ў шчыліны святло. Чутно было нейкае гудзенне.

Ціхенька ўзышлі на ганак. Я таргануў за клямку. Дзверы не паддаліся. Я паторгаў яшчэ, бразгаючы, каб пачулі гаспадары. Гудзенне ў доме сціхла, пачуліся крокі.

— Хто там? — спытала жанчына.

— Адчыніце. Салдаты.

Дзверы адчыніліся. У паласе святла стаяла мажная ўжо немаладая жанчына. У вочы адразу кінулася вопратка: на ёй былі светлакарычневы фрэнч, нарукаўка з чырвонай павязкай і чорным павуком фашысцкай свастыкі — форма нацысцкай партыі.

— Ваенныя ў доме ёсць? — пытаюся, не даючы ёй апамятацца.

— Няма, — спакойна адказала яна, стараючыся разглядзець нас. Толькі наўрад ці ёй адразу ўдалося: на двары хоць не зусім сцямнела, але ж мы сталі на парозе, засланілі сабой святло.

— Зброя ёсць? — зноў спытаў я.

— Ёсць! — гэтак жа спакойна адказала нацыстка. Па голасе адчувалася, што гэта валявая, уладарная жанчына, упэўненая ў сабе.

— Можна яе атрымаць?

— Так, можна! — жанчына павярнулася і пайшла ў пакой. Я паспяшаўся за ёю. «Фюрарша» высунула шуфляду пісьмовага стала, адышлася ўбок:

— Бярыце!

Пісталет бельгійскай вытворчасці, адхраміраваны і зіхатлівы, як люстэрка. Я пералажыў яго ў сваю кішэню. Гена стаў спіной да пустога кутка так, што яму адразу быў відаць увесь пакой. Гэта была кравецкая майстэрня. Швачкі сядзелі за машынамі і разгублена пазіралі на нас. Машынкі былі расстаўлены літарай «П». З аднаго боку ляжалі горкамі аўчынныя загатоўкі. Прайшоўшы праз усе сталы, яны рабіліся целагрэйкамі, безрукаўкамі і трохпалымі рукавіцамі.

— Усё для фронту! Усё для перамогі! — з'яхідічаў я.

— Арміі гэта спатрэбіцца, — стрымана адказала жанчына. Яна чакала, што будзе далей.

— Мы будзем браць у вас харч, — сказаў я.

— Падрыхтаваць вам? — спытала немка.

— Не, не трэба. Загадайце вашым дзяўчатам стаць, пакуль мы тут, у той куток, — сказаў я.

«Фюрарша» яшчэ нічога не паспела сказаць, як дзяўчаты паднялі страшэнны лямант. Відаць, яны падумалі на самае горшае.

— Ціха! — ударыўшы прыкладам аўтамата па стале, крыкнуў я з усяе сілы. — Рукі — на сталы!

— Не страляйце іх. Мы зробім усё, што вы загадаеце, — паабяцала «фюрарша», гледзячы мне проста ў вочы. На твары яе не было і ценю хітрасці. Відаць было, што яна не са страху гаварыла.

Імгненна ўсталявалася цішыня. Дзяўчаты паслухмяна выцягнулі перад сабой рукі і сцяліся ад страху. Усе яны — падросткі гадоў па чатырнаццаць-пятнаццаць. Пальцы нервова дрыжаць.

— Ніхто вас не будзе чапаць. Толькі сядзіце спакойна, — кажу. — Мы ж павінны прымаць меры перасцярогі. А вы, — звярнуўся я да «фюраршы», — сядзьце з гэтага боку стала, далей ад шуфляд.

Усе змоўклі, паслухмяна сядзелі. Напружанне не спадала. І «фюрарша» і швачкі не зводзілі з нас вачэй.

— Дзейнічай! — кіўнуў я Генку.

Ён пайшоў на кухню. Праз нейкі час вярнуўся з поўным рэчавым мяшком.

— Давай твой, — сказаў ён і памог мне зняць з плячэй ранец. — Тут аж паліцы ломяцца — столькі ўсякага дабра! Роту можна накарміць.

— Бярыце ўсё, што вам патрэбна, — загаварыла фюрарша. — Толькі не трэба тут доўга быць. Вакол поўна салдат. І — рана ці позна — вы загінеце. Раю ісці на поўнач. Там многа лясоў, і, магчыма, зможаце дабрацца да сваіх. Фронт не так далёка. Ідзіце



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

### СКРАБЛЯЦКІЯ СПРАВЫ

У вёсцы Скраблякі (Беластоцкі павет) сельскагаспадарчы гурток існуе ад 1961 года і яго членамі з'яўляюцца амаль усе жыхары вёскі. Усіх членаў гурток налічвае 43 асобы.

У сельскагаспадарчым гуртку ёсць абмалотачныя агрэгаты, млын, конныя сеўнікі, апырсквачы, электрарухавікі і крайзэга. Гурток працуе штогод без страт. Машынамі карыстаюцца ўсе. Сельгасгурткоўцы намерыліся яшчэ купіць зграбалку.

У праўленні добра працуюць: старшыня гуртка Сцяпан Лісавец, скарбнік Юры Налівайка і іншыя.

* ✲ *

У Скраблях дзейнічае 11-асабовая партыйная арганізацыя. ПОП дапамагае сялянам вырашаць многа хвалюючых спраў. Сакратаром ПОП з'яўляецца Мікалай Тамашэвіч.

* ✲ *

Жанчыны са Скраблякоў намерыліся арганізаваць у сваёй вёсцы курс крою і шыцця.

### НАШ ПІСЬМАНОСЕЦ

Мікалай Каўнер — гэта чалавек салідны, добразычлівы, выключна адданы сваёй працы. Ён ужо так прывык да свайго асяроддзя і працы, што іншая праца не давала б яму задавальнення.

Абслугоўвае ён многа вёсак: Крывец, Прыбудкі, Гарадзіска, Падбаравіска, Крыніцу і другія. Няма ў тэтых вёсках такога жыхара, які б не выпісваў газет. Асабліва вялікую папулярнасць мае ў яго «Ніва», бо амаль палова гаспадароў выпісвае і чытае «Ніву». Не было такіх выпадкаў, каб у нашага пісьманосца загінула пісьмо ці газета.

**В. А.,**
**Прыбудкі**

### УЖО ЗАКАЗАЛІ КУРАНЯТ

Гурток вясковых гаспадынь у Белках пераканаўся, што найменш клопатаў пры гадоўлі куранятак купленых у інкубатары. Ужо ў студзені члены КГВ хадзілі ад хаты да хаты; сабралі грошы і зложылі заказ у Гайнаўку да сваіх улад на пакупку куранят.

**Ярош, Белкі**

### АННА ГРЫКО

Доўгі ўжо час Анна Грыко працуе начальнікам пошты ў Семяноўцы. Яна з'яўляецца добрым прапагандыстам «Нівы», а таксама добрым актывістам БГКТ. **Віктар Бура, Гайнаўка**



### БУДЗЕ СВЯТЛІЦА

Ліпіны — невялікая вёска, якая знаходзіцца недалёка ад Гайнаўкі. Жыве ў ёй многа моладзі, якая належыць да ЗМВ. У арганізацыі ўсё ўкладаецца добра, толькі найгорш, што не было святліцы. І вось вялікую заслугу ў гэтым мае Ігар Сапэнга, які выстараўся, каб аддалі для моладзі злеўню малака, якая ўжо год стаіць з замкнутымі дзвярыма. На перабудову злеўні малака на святліцу ўлады даюць 20 тыс. зл.

Цяпер моладзь Ліпін упэўнена, што неўзабаве будзе мець, дзе сабрацца ў доўгія зімовыя вечары, а таксама будзе дзе арганізаваць забаву.

**Марыся Петручук,**
**Ліпіны**




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я на вёсцы. Мне ўжо 18 год. Ёсць у нас на вёсцы адзін хлапец, які мне страшэнна падабаецца. Ён прыгожы, вясёлы, прыгожа спявае. Не ведаю толькі, ці я яму падабаюся гэтак сама. Праўда не раз ён праводзіў мяне з забавы дахаты, нават мне здалося, што я яму падабаюся. Аднак гэта толькі мае прыпушчэнні, бо Вася нічога мне аб тым не гаварыў. Не ведаю, што зрабіць, каб Вася пакахаў мяне. Бо я не вельмі прыгожая, маю на твары вяснушкі і вугры. Не ведаю, як гэтага ўсяго пазбыцца.

Парай, Сэрцайка. Чакаю.

**Ліля з Гайнаўшчыны**

**Ліля!** Адказваю табе на першае пытанне: што зрабіць, каб Вася пакахаў цябе? Гэта цяжкая справа. Аднак усё, як кажуць, на добрай дарозе. Вася звярнуў на цябе ўвагу, танцуе з табой і адводзіць дамоў. Відаць, ён выбраў цябе сярод іншых дзяўчат. Зрэшты, часам непрыгожыя дзяўчаты падабаюцца хлопцам больш, чым прыгожыя. Толькі мусіш старацца, каб падабацца Васю сваімі паступкамі, ты ж добра ведаеш гэтага хлапца і яго ўпадабанні. Ты павінна сачыць за сабой, модна і з густам апранацца, а таксама тактоўна сябе весці.

А цяпер на другое пытанне: як пазбыцца вяснушак і вугроў? Мне здаецца, што вяснушкі (калі іх не замнога) нават прыдаюць прыгажосці, але калі табе не падабаюцца, дык ад іх ёсць жа крэмы. Аднак найлепш — замест крэмаў — летам добра апаліцца на сонцы, іх тады не будзе відаць. А ў справе вугроў — звярніся да лекара. Параду на гэтую тэму мы змясцілі ў апошнім нумары «Нівы» ў кутку «Сардэчныя тайны».

**Сэрцайка**

### У СТРАШАВЕ

У вясковай святліцы ў Страшаве (Беластоцкі павет) ужо два гады вядуцца заняткі ў маладзёжным універсітэце. Універсітэтам кіруе настаўніца Марыя Вярцінская, якая адказвае адначасова за заняткі на грамадска-палітычныя тэмы. Заняткі на сельскагаспадарчыя тэмы вядзе працаўнік сельскагаспадарчага аддзела прэзідыума ПРН у Беластоку Чэслаў Крышкевіч, а заняткі на лекарскія тэмы — лекар Пётр Рынкевіч. На заняткі ўніверсітэта прыходзіць у сярэднім 20 асоб з вёсак Страшава, Бялявічы і Грыбаўцы.

✲

Кіраўнічка мясцовай школы Марыя Вярцінская ўжо 9 год вядзе ў Страшаве заняткі ў калектыве сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У снежні мінулага года адбыўся дзяржаўны экзамен, які паспяхова здало 15 асоб.

✲

Актыўна працуе ў Страшаве гурток ЗМВ. Гурток забавязаўся ў гонар 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна працаваць грамадскім чынам 2500 гадзін пры рамонце вясковай святліцы, а таксама пры пасадцы дрэў у вёсцы і ваколіцы.

✲

Працай вясковай святліцы ў Страшаве кіруе Зіна Лебядзінская. У святліцы можна паглядзець тэлевізійную праграму або паслухаць сучасныя мелодыі з грампласцінак. Тут адбываюцца ўсе агульнаграмадскія сходы, акадэміі, патанцоўкі і г.д. На сценах вывешаны актуальныя насценгазеты і фотагазеткі на тэму: «Год Леніна» і «Наша Радзіма».

✲

8 лютага г.г. у святліцы ў Страшаве пасля даклада аб Леніне адбыўся конкурс на тэму «Жыццёвы шлях і дзейнасць Леніна». Конкурс вёў інструктар ГП БГКТ Я. Цялушэцкі.

Найбольш трапнымі і поўнымі адказамі выказаліся: Марыя Вярцінская (кіраўнічка мясцовай школы), Ліля Антончук (старшыня гуртка ЗМВ), Мікалай Грушэўскі і Аляксандр Антончук. Усе вышэй спамянутыя асобы атрымалі ўзнагароды — кніжкі.

Пасля конкурсу моладзь са Страшава пастанавіла неўзабаве зрабіць сход і ўтварыць у сябе гурток БГКТ.

Я. М.



### АКТЫВІСТКА БГКТ

Роля настаўнікаў у БГКТ велізарная. Дзякуючы ім развіваецца мастацкі рух з беларускім рэпертуарам, дзякуючы ім гурткі БГКТ на вёсках спаўняюць належна сваю ролю і праяўляюць культурна - асветную дзейнасць у сваім асяроддзі. Настаўнікі — гэта самаахвярныя актывісты БГКТ. Да іх належыць і Вера Тамашук з Новага Корніна ў Гайнаўскім павеце.

**Фота В. Бура**

### НЕДАХОПЫ ПР-АЎ

У калектывах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі налічваецца зараз на Гайнаўшчыне 679 асоб, якія на спецыяльных занятках атрымоўваюць сельскагаспадарчыя веды. Гэтая форма пазашкольнай адукацыі сустракаецца з вялікімі цяжкасцямі, да якіх трэба залічыць слабыя кантакты, слабое супрацоўніцтва з арганізацыямі, якія існуюць у данай вёсцы. Нават з такімі арганізацыямі як Саюз вясковай моладзі і сельскагаспадарчыя гурткі, няма належных кантактаў. ЗМВ і КР на сваіх сходах ніколі не праяўляюць зацікаўлення працай калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

**Віталіс Назарук,**
Гайнаўка

### КУЛІК

Нядаўна гурток Саюза вясковай моладзі ў Скраблях арганізаваў кулік, у якім прыняло ўдзел 20 асоб.



**Удзельнікі куліку пры кастры. Фота Адам Зінкевіч**

— там ваша збавенне, ваша жыццё. А тут — наша... Зразумейце, што мы, немцы, не ўступім ні адной пядзі сваёй зямлі. Наша армія будзе стаяць насмерць. Усе мы будзем стаяць.

— Так сказаў Гебельс, — з іроніяй заўважыў я.

— Не толькі ён. Глядзіце, — яна кіўнула на дзяўчат, — усе яны працуюць на абарону. У нас высокая дысцыпліна, многа зброі.

— І ўсё ж Савецкая Армія павінна скончыць вайну там, адкуль яна пачалася. З нацызмам павінна быць пакончана назаўсёды. Так што дарэмныя вашы клопаты — мы тут, у Нямеччыне, дачакаемся сваіх.

Не ведаю, колькі яшчэ цягнулася б наша спрэчка, каб не перапыніў яе Генка.

— Пра што гэта вы так разгаварыліся? — І не чакаючы адказу, дадаў: — Ідзі есці: я прыгатаваў на кухні тое-сёе.

На электраплітцы Генка згатаваў нешта накшталт яечні.

Я хутка ўсё праглынуў і вярнуўся з кухні ў пакой.

— Ну што ж, давядзецца ўзяць яшчэ па цыгарэйцы за кошт рэпарацый. Мо, нават, і аўчыны нашы? Не ў Саветах нарабаваныя?

— Не цікавіліся, — з годнасцю адказала «фюрарша». — Толькі гэтыя малыя. На ваш рост не падыдуць. Вазьміце сабе вунь, там, на сярэдняй паліцы. А юнзе можна падабраць адсюль.

«Глядзі ты — якая нямецкая педантычнасць...» — падумаў я, але змоўк.

— Прыхапі, Гена, рукавіцы таксама. Яна праўду кажа, хутка зіма...

— Не грэбуйце маёй парадай. Ідзіце на поўнач, — яшчэ раз напомніла немка. — Так будзе лепш і нам, і вам.

— Дзякуй і на гэтым, — усміхнуўся я. — Спадзяёмся, што вы не надта будзеце спяшацца даносіць на нас у паліцыю? Мы вас, здаецца, не вельмі пакрыўдзілі. А то за другім разам можам не разысціся так мірна.

— Я абавязана данесці, — цвёрда адказала «фюрарша».

—Скажы, хай звоніць па тэлефоне, а не бегае, а то кашаль схопіць, — штурхнуў пад бок Генка. — Я ўжо абрэзаў правады.

— Абяцаеце не даносіць хоць бы да раніцы?

— Раней я нічога не змагу зрабіць, нават, калі б жадала.

— Гэта нам падыходзіць.

— Разумею вас, — на твары яе з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка. Пры ўсёй яе знешняй стрыманасці, яна, напэўна, хвалявалася, у яе былі падставы спадзявацца на горшае.

Дзяўчаты за ўвесь час нашай размовы не прамовілі ні слова. Я чамусьці падумаў, што сярод вось такіх мабілізаваных фашыстамі падросткаў недзе працуе і Эльза з таго хутара, дзе нам спяклі хлеб і перадалі ад яе гасцінец — па кавалку пірага.

(Працяг будзе)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Koniec Agenta W4C" (czeski), „Stawka większa niż życie" (polski), 3—8.

**Дубіны**

„Człowiek z karabinem" (radz.), „Opowieść znad Donu" (radz.), 7—8.

**Нараўка**

„Czerwone i złote" (polski), „Wyzwanie dla Robin Hooda" (angl.), 4—8.

**Нарва**

„Deszcz padał na szczęście" (czeski), „Molo" (polski), 4—8.

**Чыжы**

„Mój stary" (polski), „Brat dr Homera" (węgierski), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**

„Pomyłka szpiega" (radz.), „Napad stulecia" (angl.), 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), „Zbrodnia przy ulicy Dantego" (radz.), 4—8.

**Орля**

„Zawsze w niedzielę" (polski), „Czworokąt śmierci" (czeski), 4—8.

**Райск**

„Twój współczesny" (radz.), „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 4—8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Siedemnasty równoleżnik" (franc.), 3—4. „Siódmy rok miłości" (NRD), 5—6. „Późne popołudnie" (polski), 7—8.

**Крынкі**

„Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 3—4. „Dzwon admirała" (angl.), 5—6. „Lalka" (polski), 7—8.

**Янаў**

„Kobieta wąż'" (angl.), 4—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Cyrk jedzie" (USA), 3—4. „Fanfan-Tulipan" (franc.), 5—6. „Szósty lipca" (radz.), 7—8.

**Мельнік**

„Za frontem" (radz.), 3—4. „Upiór z Morsville" (czeski), 5—6. „Wiryneja" (radz.), 7—8.

**Мілейчыцы**

„Sabrina" (USA), 3—4. „Wyspa na lądzie" (franc.), 5—6. „Operacja Belgrad" (jugosł.), 7—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Dożyjemy do poniedziałku" (radz.), „Dziewczęta z diabelskiej przystani" (radz.), 4—8.

**Новы Двор**

„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), „Polowanie na mężczynę" (franc.), 7—8.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego PUPiK „Ruch" NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23 Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. W-3 Nakład 7173



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

